ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431, Tel.: AX 1-8038

Год XXII, № 177 Нью Ёрк January — Студзень 1972 New York Vol. XXII № 177

## ДЗЬВЕ РЭЗАЛЮЦЫІ У КАНГРЭСЕ ЗША У СПРАВЕ БССР

**У лістападзе-сьнежні летась у Кангрэсе ЗША былі прадстаўленыя дзьве розныя рэзалюцыі, адна зь якіх рэкамэндуе ўраду ЗША зрабіць безадкладныя захады дзеля ўстанаўленьня беспасярэдніх дыпляматычных дачыненьняў зь Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай і Украінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай, а другая патрабуе гэткіх-жа безадкладных захадаў амэрыканскага прадстаўніцтва ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў дзеля пазбаўленьня гэтых „рэспублік" сяброўства ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў на тэй падставе, што дзяржаўная незалежнасьць абедзьвюх згаданых „рэспублік" фікцыйная й выкарыстоўваная Савецкім Саюзам адно ў ягоных прапагандавых мэтах.**

**Першую рэзалюцыю ўнёс кангрэсмэн із штату Віскансін Клемэнт Заблоцкі (Дэмакрат), а другую кангрэсмэн із штату Флярыда Гэрбэрт Бэрк (Рэспубліканец) ад свайго імя й ад імя 24-ох іншых кангрэсмэнаў. Абедзьве рэзалюцыі былі перададзеныя Камісіі Замежных Справаў Палаты Рэпрэзэнтантаў дзеля папярэдняга абмеркаваньня пакуль яны змогуць зьявіцца на парадку дня Кангрэсу.**

**Поўныя тэксты абедзьвюх рэзалюцыяў будуць надрукаваныя ў наступным нумары „Беларуса".**

# НА 80-ЫЯ ЎГОДКІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА



**С. Вакар. МАКСІМ БАГДАНОВІЧ** Фрагмэнт скульптуры

10-га сьнежня летась споўніліся 80-ыя ўгодкі ад нараджэньня вялікага беларускага паэты Максіма Багдановіча.

За жыцьця Максіма Багдановіча й даўгі час яшчэ па ягонай сьмерці беларуская літаратурная крытыка на чале нашай адраджэнскай літаратуры звычайна ставіла двух вялікіх ейных прадстаўнікоў — Янку Купалу й Якуба Коласа. Гэтым штучна звужаліся літаратурныя ўзвышшы нашаніўскай пары й рабілася незаслужаная крыўда Максіму Багдановічу. Літаратуразнаўчыя дасьледваньні пазьнейшага часу, галоўна паваенных гадоў паказалі дый пацьвердзіла само літаратурнае жыцьцё, што не пра вялікую двойку, а тройку, якая ўзаемна сябе дапаўняла й рухала наш літаратурны працэс, гаварыць трэба: пра Купалу, Коласа й Багдановіча.

Больш таго! Купала й Колас, зрабіўшы нязвычайна шмат і для беларускай літаратуры, і для беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху, даволі хутка па сваёй сьмерці пачалі адыходзіць у гісторыю. Багдановіч-жа, хоць і памёр зусім перадчасна й шмат раней за Купалу й Коласа, у беларускім літаратурным працэсе жыве й сяньня. Як трапна выразіўся ў сваім глыбокім нарысе „Загадка Багдановіча" Міхась Стральцоў, „яго няма — ляціць яго „Пагоня"!

Праўда, з гледзішча колькаснага літаратурная спадчына Максіма Багдановіча ня можа й раўняцца з творчасьцяй Янкі Купалы й Якуба Коласа. Багдановіч пакінуў па сабе ўсяго адзін зборнік сваіх вершаў „Вянок" ды нязначную колькасьць вершаваных і празаічных твораў, што ў гэты зборнік ня трапілі або былі напісаныя пасьля ягонага выхаду ў 1913 годзе. Але месца кажнага паэты ў літаратуры вымяраецца ня колькасьцяй, а якасьцяй ім напісанага ды ўзьдзейваньнем ягонае творчасьці на сучасны й наступны па ім літаратурны працэс.

Літаратурная творчасьць нашаніўскае пары перш-наперш служыла мэтам нацыянальнага адраджэньня народу. Яна была адначасна дзейнасьцяй палітычнай, грамадзкай, культурнай, асьветнай, інакш кажучы, дзейнасьцяй утылітарнай. Затое ў эстэтычных паглядах і літаратурнай практыцы Багдановіча літаратурны твор павінен быць перш-наперш мастацкім творам, выконваць мастацкія функцыі. Гэткі пагляд Багдановіча на існасьць літаратурнага мастацтва стаўся прычынаю, што ў літаратурнай крытыцы нейкі час уважаўся ён, як песьняр „чыстае красы". Тымчасам Багдановіч ані не адкідаў грамадзкіх і нацыянальных праблемаў у літаратуры, адно разглядаў іх у іхнай чыста мастацкай функцыі. Ён прызнаваў вялікае ідэйнае ўзьдзейваньне літаратурнага твору на чытача, але адно ў тым выпадку, калі гэтае ўзьдзейваньне ўспрыймаецца чытачом, як эстэтычнае перажываньне. „Няма красы без спажытку, бо сама краса і ёсьць той спажытак дзеля душы" — выкладае Багдановіч сваё эстэтычнае крэда ў апавяданьні „Апокрыф". Думку гэтую пазьней ён разгарнуў у апавяданьні „Аб іконьніку і залатару". „Бо ня тое, што майстар малюе, але толькі тое, як ён гэта робіць, толькі здольнасьць і ўмеласьць яго могуць малюнку хвалу і каштоўнасьць надаць", — гэтак сфармуляваў Багдановіч у гэтым сваім апавяданьні свой пагляд на існасьць і ролю мастацтва.

Апрача гэтага, Максім Багдановіч сфармуляваў і ў сваёй практычнай літаратурнай дзейнасьці пачаў ужыцьцяўляць іншы важны прынцып сваіх эстэтычных пагляддаў. У сваім артыкуле „Забыты шлях" Багдановіч пісаў: „Намагаючыся зрабіць нашу паэзію ня толькі мовай, але і духам, і складам твораў шчыра беларускай, мы зрабілі-б цяжкую памылку, калі-б кінулі тую вывучку, што дала нам сусьветная (найчасьцей эўрапейская) паэзія... Было-б горш, чым нядбальствам, нічога ня ўзяць з таго, што сотні народаў праз тысячы год зьбіралі ў скарбніцу сусьветнай культуры". Таму гэтаму свайму пераканаьню пра неабходнасьць узбагачваньня беларускай літаратуры найлепшымі ўзорамі сусьветнай паэзіі верна служыў Багдановіч у сваёй творчасьці. Добрае веданьне заходняэўрапейскае літаратуры памагло яму прысвоіць роднай паэзіі найлепшыя ейныя ўзоры й самому падняцца да ейнага ўзроўню.

У тым-жа артыкуле „Забыты шлях", падчыркнуўшы патрэбу запазычаньня з чужых літаратураў, Багдановіч пісаў далей: „Але заносіць (у беларрускую літаратуру) толькі чужое, не разьв'ваючы свайго — гэта яшчэ горш: гэта значыць глуміць народную душу... Трэба-ж і нам, Беларусам, бяручы чужое, калі-нікалі даць нешта сваё". Дапаўняючы гэтую думку, Багдановіч цьвердзіў: „Усё-ж, хоць многа шляхоў прайшла пры сваім разьвіцьці наша паэзія, але адзін дасюль яшчэ абмінае яна — свой родны беларускі шлях, пралажаны праз соткі год народнай песеннай працы".

Цыкль Багдановічавых „вершаў беларускага складу", цэлы разьдзел у зборніку ягоным „Вянок" пад назовам „У зачараваным царсьцьве", пісаныя народным стылем і паводля народных сюжэтаў кароценькія паэмкі „Мушка-зелянушка і камарык-насаты тварык", „Максім і Магдалена", „Страцім лебезь" — і былі Багдановічавай спробай пайсьці гэным „родным, беларускім шляхам". Згаданыя толькішто ягоныя творы — гэта, кажны на свой лад, арыгінальныя й дасканалыя ўзоры народнасьці й фальклёрнасьці ў нашай паэзіі. І калі аднэй з характэрных асаблівасьцяў беларускай літаратуры наагул ейная арганічная сувязь з народнымі мастацкімі традыцыямі, дык першая й найбольшая заслуга ў гэтым якраз Багдановіча.

Беларускую літаратуразнаўству й крытыку ў БССР навет самага апошняга часу інтрыгуе пытаньне, чаму Максім Багдановіч стаўся якраз беларускім паэтам. Былі-ж у Багдановічавай біяграфіі ўсе дадзеныя дзеля таго, каб, падобна як калісьці Адам Міцкевіч, не зважаючы на сваё беларускае паходжаньне, быў паэтам польскім, гэтак і Максім Багдановіч павінен быў-бы стацца паэтам расейскім. Ранейшыя дасьледвальнікі высьвятлялі гэта пераважна ўзьдзейваньнем на малога яшчэ Максіма Багдановіча беларускай фальклёрнай традыцыі, што, побач з расейскай культурнай атмасфэрай і расейскай мовай, панавала ў хаце ягонага бацькі. Але-ж аднае гэтае фальклёрнае традыцыі было яшчэ не даволі, каб малады Максім Багдановіч мог гэтак глыбака палюбіць усё беларускае, навучыцца кніжным шляхам беларускае мовы ды стацца адным з найвыдатнейшых беларускіх нацыянальных паэтаў.

На нашую думку, найбліжэй падыйшоў да разьвязаньня гэтае дзіўнае загадкі Міхась Стральцоў у згаданым сваім нарысе „Загадка Багдановіча". На думку Стральцова, Багдановіч, дзякуючы ўкладу свае душы, вычуў інтуіцыйна сваю беларускасьць. А ягоная цьвёрдая наважанасьць верна служыць гэтай беларускасьці зрадзілася пад уплывам духа часу, у якім ён жыў і тварыў. Больш таго! Багдановіч, як літаральна кажа Міхась Стральцоў, „пісаў і паруску, і паўкраінску, але мастаком ён быў толькі на роднай беларускай мове", хоць і ведаў яе зусім дрэнна. Стральцоў вельмі пераконліва давёў гэта, прыраўняўшы Багдановічавы беларускія вершы зь іхнымі перакладамі ў расейскую мову, зробленымі ім самым. „Інтуіцыя мастака перамагла недастатковае веданьне (беларускае) мовы, каб сьцьвердзіць сябе ў ёй і толькі ў ёй", — кажа Стральцоў у выснове.

Максім Багдановіч ня перастаў быць актуальным асабліва сяньня, як тэарэтык і эстэтык беларускага мастацкага слова, як прыклад і ўзор служэньня роднаму мастацтву. Вызваліўшыся із шаблённых партыйных догмаў, уканаванізаваных у гадох гэтак званага культу Сталіна, сучасныя беларускія паэты паступова, але цьвёрда й наважана ўзыйшлі на тыя шляхі, якія паказаў ім Максім Багдановіч. Творчасьць сучасных беларускіх паэтаў, як калісьці й Багдановічава, імкнецца спалучыць у сабе два асноўныя элемэнты: арыентавацца на мастацкія дасягненьні сусьветнае паэзіі й выяўляць у сабе нацыянальны беларускі характар.

Высокія мастацкія ўзвышшы Багдановічавае творчасьці, ягонае далучэньне да сусьветных паэтычных дасягненьняў і замацаваньне іх на роднай паэтычнай глебе, правільна вызначаныя ім шляхі далейшага разьвіцьця беларускае літаратуры ды ягоны вялізарны ўплыў на наступныя па ім пакаленьні беларускіх паэтаў вызначаюць Максіму Багдановічу выняткавае месца ў гісторыі беларускай літаратуры.

**Раман Шарупіч**

# У РОДНЫМ КРАЮ ЁСЬЦЬ КРЫНІЦА...

**АД РЭДАКЦЫІ: На 80-ыя ўгодкі Максіма Багдановіча некаторыя беларускія падсавецкія пісьменьнікі выступілі ў друку з артыкуламі, у якіх выказалі свой пагляд, як яны разумеюць сяньня творчасьць Максіма Багдановіча, якая ейная роля ў сучаснай беларускай паэзіі ды што заўдзячваюць ёй у творчасьці сваёй. Дзеля прыкладу, ніжэй перадрукоўваем з газэты „Літаратура і Мастацтва" за 3 сьнежня адзін з гэткіх артыкулаў — маладога беларускага паэты Янкі Сіпакова „У родным краю ёсьць крыніца..."**

***

Ён пражыў крыху больш, як дваццаць пяць год. Ён працаваў у літаратуры ўсяго толькі адно дзесяцігодзьдзе. Ён выдаў толькі адну адзіную кніжку паэзіі, якая адначасова была і яго першым зборнікам і на дзіва прыдзірліва складзеным выбраным паэтам.

Але, ня гледзячы на ўсе гэтыя „толькі", у Максіма Багдановіча, у гэтага знанага і славутага юнака, вось ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў не сароміюцца вучыцца і тыя, хто, выдаўшы па некалькі дзесяткаў паэтычных кніжак, знаходзяцца ў добрай пары сталага й мудрага вопыту; і тыя, хто як, скажам, маё пакаленьне, набыўшы ясную й сьветлую разважлівасьць, упарта набліжаецца да філязофскага асэнсаваньня жыцьця; і тыя, хто, часьцей за ўсё перарослы паэту па гадох, нясьмела й сарамліва зьбірае ў далейшую дарогу свой няслухмяны вырай — першую кніжку паэзіі.

Бо Максім Багдановіч стаіць у нашай роднай літаратуры, на нашай беларускай зямлі моцна й трывала — як глыба. Яго ня ссунеш з дарогі. Яго не абмінеш абыякава. Каля яго ня пройдзеш напышліва й пагардліва. Хочаш ці ня хочаш, а мусіш абавязкова азірацца на яго вопыт, на яго асобу, на яго прасторавы паэтычны край. Што-ж, вялікі паэта заўсёды стаіць на самым відавоку — ён адусюль відзён.

Нам трэба вучыцца ў Максіма Багдановіча складаць свае паэтычныя зборнікі — каб і ў іх, як у ягонай кнізе, быў такі-ж парадак і лад. Перачытваеш зноў „Вянок" і яскрава, у каторы ўжо раз, бачыш, як там усё арганічна, усё да месца. Там няма нічога лішняга, што-б можна было безбалесна выняць, туды нельга дадаць што-кольвек новае, не парушыўшы рытму кнігі. Гэта не абыякавы зборнік выпадковых вершаў, а сюжэтная кампазыцыя думкі, музыкі, пачуцьця.

Мы вучымся культуры яго паэтычнага мысьленьня, вучымся культуры яго пісьменьніцкай працы наогул. Як шырока глядзеў паэта на сьвет! Ён нават і за такі кароткі час пасьпеў паспрабаваць сябе, апрача паэзіі, яшчэ і ў прозе, і ў крытыцы, і ў публіцыстыцы. І мы зьдзіўляемся ад нечаканасьці, калі чытаем, якія высокія і ня вельмі зразумелыя на той час патрабаваньні да сваіх твораў і да ўсёй беларускай літаратуры меў дваццацігадовы юнак, калі сьмела й стала ўзяўся рабіць агляд роднай літаратуры за год. Ён, гэты юнак, шчыра верыў, што беларуская паэзія, каб стаць вядомай у сьвеце, не павінна цурацца і саромецца свайго нацыянальнага выгляду, але ёй трэба паболей нутранай культуры, шырыні і, калі хочаце, элегантнасьці, без якіх любая паэзія робіцца абмежаванай, толькі для хатняга ўжытку. А ён марыў вывесьці ў людзі нашу паэзію — менавіта беларускую, менавіта нацыянальную песьню, якая-б змагла ўзбагаціць паэзію сьвету сваімі беларускімі формамі, думкамі, сваім адметным успрыняцьцем жыцьця, бо „вялікі чалавек заўсёды нацыянальны, як яго народ, бо ён таму й вялікі, што прадстаўляе сабою свой народ", — як пісаў пра гэта В. Бялінскі.

Мы павінны вучыцца ў паэты любіць сваю Радзіму. Ён сур'ёзна хворы чалавек, знаходзячыся далёка ад свайго роднага краю, здаецца, да наіўнага шчыра верыў, што толькі родная зямля мае тую гаючую крыніцу з жывою вадою, якая вылечвае любую хваробу...

> У родным краю ёсьць крыніца
> Жывой вады...

Ён любіў свой край. Ён любіў усе народы зямлі чыстай любоўю, глыбока паважаў іх. Ён, на прыкладзе царызму, які прыніжаў і закрэсьліваў яго край, ведаў, як гэта балюча. Таму ў яго нават і ў думках ня было ўзвышаць свой народ над якім-небудзь іншым. Ён хацеў толькі ўзьняць свой край, паставіць яго побач з усімі, сказаць, што і Беларусы — такі-ж самы народ, як і ўсе астатнія: із сваёй гісторыяй, із сваёй культурай, із сваімі казкамі, песьнямі і легендамі, із сваёй мовай.

Свая мова... Спачатку ён пісаў тою моваю, якой ніколі ня чуў, але якая клекатала й бурліла ў яго ўражлівай душы — як далёкі напамінак, радасная згадка пра родны край. Паэта пісаў „на мове, якой ня чуе вакол сябе, а чуе ў сабе", — як пра гэта хораша ўспамінае яго сябра Д. Дзябольскі.

Дзесяцігодзьдзе, якое няўмольны лёс адвёў Максіму Багдановічу на творчасьць, было вельмі змрочным. Царызм, нібы ў агоніі, хапатліва душыў усё, што напамінала яму пра рэвалюцыю, а ў цемрыве рэакцыі ня відаць было і малюсенькага прасьвету. Але Багдановіч, нягледзячы на гэта, застаўся паэтам сьветлай надзеі. Яго ўпэўненае слова: „Дачакаемся!" зьвернутае і да краіны, і да прыніжаных людзей, прысьпешвала рэвалюцыю...

У Максіма Багдановіча свая тэма, свой сьвет, свая мова і ўсё — непаўторнае. Ягоны сьвет не прадоўжыш, не падробіш. Там, у тым сьвеце — толькі адзін ён. Задумлівы й разважлівы. Крыху элегічны і шчымліва-тужлівы.

Нельга таксама паўтарыць яго мову, якую паэта чуў толькі ў сабе. Нельга паўтарыць і яго тэму. Але вучыцца ў Багдановіча шукаць сваю тэму, сваю мову і свой сьвет нікому, відаць, не зашкодзіць.

Бо Максім Багдановіч — гэта чалавек, які ўзьняўся над сваім узростам. Бо гэта паэта, які за свае дзесяць творчых год пражыў такое вялікае і такое таленавітае паэтычнае жыцьцё.

**Янка Сіпакоў**

## РАСЬЦЕ "ПОЛАЦАК" — РАСТУЦЬ І ЛЮДЗІ



**Вось гэтак кажнае летняе нядзелі ў цені дрэваў у Полацку**

У пачатку 1967 году Беларусы Кліўленду задумалі купіць для грамадзкіх патрэбаў сваё беларускае селішча. За кароткі час задума зьдзейсьнілася. Падаючы першую вестку пра куплю селішча, якое вельмі трапна назвалі „Полацкам", у газэце „Беларус" у 1968 годзе аўтар зацемкі — адзін зь ініцыятараў куплі пісаў: „Зойме шмат часу, шмат грошай і працы прыйдзецца ўкласьці, каб зрэалізаваць усё заплянаванае. Шлях будзе цярністы, але, спадзяючыся на патрыятызм усёй нашай эміграцыі, Полацак будзе разьвівацца".

Мінула з таго часу пяць гадоў. І радасна, што спадзяваньні, выказаныя тады, споўніліся.

Шмат ахвярнай працы ўклалі кліўлендцы ў разбудову свайго селішча. Трэба было зрабіць яго выгодным для карыстаньня для ўсіх: дзяцей, моладзі й дарослых, зрабіць яго месцам адпачынку, для спорту, для купаньня, рыбалоўства, для грамадзкіх зборак, сходаў і вечарынаў. Закасаўшы рукавы, працавалі. І ўжо ў 1969 годзе было паглыбленае, ачышчанае й загароджанае вялікаватае возера. Зроблена так, каб і дзеці й больш дазнаныя плыўкі мелі для сябе асобнае месца. Была ўстаноўленая вышка для скаканьня ў ваду, а сёлета была купленая й перадая лодка.

Другое меншае возера ачысьцілі летась і маняцца яго пакінуць для рыбаловаў. На ўсёй вялікай прасторы селішча было праведзенае асьвятленьне, падрыхтаванае месца для маёвак. Каб было дзе зьбірацца, пабудавалі залю з агграваньнем і кухняй. На тэрыторыі селішча ёсьць два дамы, але пакульшто яны здаюцца кватарантам, а атрымліваныя ад іх грошы ідуць на сплату доўгу. Для спорту падрыхтаваныя пляцы: два для валэйболу, адзін для бэйзболу й пін-понгу, падрыхтаваныя месцы для лёгкай атлетыкі, для скокаў і бегу. Мае быць падрыхтаваны пляц для футболу.

І стаўся Полацак жывым цэнтрам усяго беларускага жыцьця ў Кліўленьдзе. Кажнае нядзелі, а навет і ў буднія дні пасьля працы едуць сюды кліўлендцы, і кажны знаходзіць тут адпаведны сабе занятак, адпачынак, разрыўку.

У новазбудаванай залі ладзяцца розныя імпрэзы й прыватныя сьвяткаваньні, прыкладам, банкеты з нагоды заканчэньня вышэйшае асьветы маладых Беларусаў. На спартовых пляцох ладзяцца спаборніцтвы зь іншанацыянальнымі дружынамі або й сваімі групамі, часта дзяцей з бацькамі. Заўсёды рух у кіёску. Тут дзяжураць па чарзе сяброўкі Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня. Прадаюць розныя напіткі, закускі й розныя прысмакі. Увесь прыбытак ідзе ў касу Полацку. Удзельнікам частых тут маёвак ня прыходзіць навет на думку, каб прывозіць свае прадукты й напіткі, няма гэтага ў Кліўленьдзе. І гэтак круглы год. А цяпер узімку на асьветленым возеры езьдзяць на каньках і санчках, любуюцца асьнежанымі дрэвамі, любуюцца сваім Полацкам.

І ўсё гэта ня казка, а праўда! А каб гэтую праўду дасягнуць, трэба было мець здаровы падыход да жыцьця, глыбокай грамадзкай сьведамасьці й перакананасьці. Бо-ж і там, у Кліўленьдзе, бываюць розныя перашкоды, непаразуменьні й спрэчкі. Але ўсё гэта ўдала перамагаюць Кліўлендцы — для агульнага дабра ўсяе грамады. І ня спыняюцца на дасягнутым, усьцяж абмяркоўваюць і плянуюць новае.

У гутарцы з адным зь ініцыятараў куплі селішча, даведалася я, што плянуюць у Полацку пабудаваць дом з адпаведнымі пакоямі для гасьцей зь іншых беларускіх асяродкаў. Думка вельмі на часе. Пpаглядаючы фільмы з грамадзкага жыцьця Кліўленду й спартовых гульняў у часе маіх адведзінаў Полацку летам мінулага году, выказваліся думкі, як можна яшчэ больш выкарыстаць Полацак у галіне нацыянальнае дзейнасьці, асабліва нацыянальнага ўзгадаваньня моладзі. Даведалася, што плянуецца зрабіць у залі куток з народнымі экспанатамі — ручнымі вырабамі, тканінамі й іншымі рэчамі народнага мастацтва. Прысутная тады сп-ня Іра Калядa-Сьмірнова, былая кіраўнічка гуртка мастацкай самадзейнасьці й настаўніца беларускай школы выказала думку, каб у Полацку заргaнізаваць дзіцячы садок, каб ад маленства вучыць дзяцей беларускай песьні й народнага танцу. Яна навет выказала згоду пасьвяціць на гэта свой вольны час. А якім-жа цудоўным месцам мог-бы стацца Полацак для летняга дзіцячага лягеру, дзе нашыя найменшыя маглі-б атрымліваць нацыянальнае ўзгадаваньне. І шмат што яшчэ можна зрабіць у Полацку.

І трэба верыць, што й будзе шмат яшчэ зроблена. Тут людзі сьціплыя, але ахвярныя, працавітыя й вытрымалыя, здаровыя целам і душой. Значная іхная частка з Палесься, таго Палесься, якое сяньня, дзякуючы жывым самабытным народным традыцыям ягоных жыхароў, займае ў Беларусі бадайшто перадавое месца ў нацыянальным культурным руху,

А нам зь іншых беларускіх асяродкаў варта браць прыклад з нашых кліўлендцаў, усім нам з дыплёмамі й бяз дыплёмаў, бо ня дыплёмы, а родны беларускі дух робіць людзей паўнацэннымі й грамадзка карыснымі. І цаніць нам трэба кліўлендцаў, даваць ім нашае падтрыманьне, каб і далей рос Полацак — расьлі і людзі, будаўнікі ягоныя.

**З. Станкевіч**

## БЕЛАРУСКІ ДОМ У МЭЛЬБУРНЕ

Можа яшчэ й ранавата пісаць пра гэта. Яшчэ шмат можа зьмяніцца. Але радасьць шматлікіх Беларусаў у Мэльбурне трэба вітаць і падчыркнуць. Маюць нарэшце свой Беларускі Дом. Мроі і ходаньні толькі аднаго году — зьдзейсьніліся.

Праўда, дом невялікі, ня вельмі рэпрэзэнтацыйны, дзераўляны — былы „Сальвэйшэн Армы Гол", ды яшчэ не аплачаны, дык собскасьць канчаткова яшчэ не аформленая. Але ўжо на свае штодзённыя грамадзкія патрэбы — на зборкі, паседжаньні, сьвяткаваньні, для беларускай школькі (ад Новага Году) й Арганізацыі Моладзі, а таксама й для Багаслужбы, калі будзе патрэба, тымчасам хопіць. А ў будучыні, калі добра пойдзе, можна й разбудаваць або прадаць ды нешта лепшае купіць.

Галоўнае — ужо ёсьць свой Беларускі Дом. Ня трэба ўжо наймаць чужых заляў, зьбірацца ў чужых хатах, хай сабе й найбольш ахвярных Беларусаў (тут трэба зазначыць і зламыць асаблівую падзяку сп. М. С., у хаце якога колькі год зьбіраліся Беларусы дый да сяньня часамі зьбіраюцца, і сп-ву А. Грушам, у якіх знайшлі прыпынак (да Новага Году) Беларуская Школка й Арганізацыя Моладзі. Дык усё, апрача танцавальных вечарынаў, ужо можа адбывацца ў сваім Доме.

Дзеля гэтага й радасьць тых, што разумеюць значаньне гэткага Дому. Праўда, некаторыя стараюцца знайсьці розныя свае „але..." і ня хочуць далучыцца да грамады. Але, відаць, што й бязь іхнае дапамогі Беларускі Дом у Мэльбурне будзе жыць.

Застаецца тым часам жадаць посьпехаў, а Беларусам, якія шчыра ўзяліся за яго, здароўя й сілаў, каб як найхутчэй сабралі патрэбныя грошы, аформілі куплю, правялі ў доме патрэбны рамонт ды наладзілі ў ім беларускае жыцьцё. Дапамагай ім Бог!

**М. Н.**

## ДЗЕЧЬ ГЕРОЯЎ БЕЛАРУСІ Ў ТАРОНЬЦЕ

28 лістапада Галоўная Управа ЗБК арганізавала ўрачыстасьці, якімі беларускае грамадзтва Таронта й ваколіц складала заміж вянка на магілу свае малітвы й пашану Тым, што аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за волю Бацькаўшчыны.

Зраніцы ў БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага а. Міхаіл Мігай у суслужэньні паддзіякана Р. Целяша й падслужнікаў А. Акулы й М. Кавалёва адслужыў Сьв. Літургію з прынагодным казаньнем, а пасьля Паніхіду за супакой душ паўшых Герояў Беларусі. Бел-чырвона-белы сьцяг у часе Паніхіды трымаў вэтэран сп. Г. Барановіч.

Урачысты Сход, што адбыўся пасьля Багаслужбаў у залі БР-ГЦ на 524 Ст. Клэрэнс, пад кіраўніцтвам сп. М. Ганька пачаўся вайсковай малітвай, адсьпяванай усім Сходам „Беларусь наша Маці Краіна". Хвілінай маўчаньня Сход аддаў пашану Героям, а жалобным маршам „Сьпі пад курганам герояў" даў ім заруку, што „. . . мы не пахілім галоваў, не ўцячом із радоў", што мы будзем працягваць іх шлях змаганьня за волю Беларусі.

У гэтым духу аб нашых абавязках перад беларускім народам і Бацькаўшчынай і гаварыў у сваёй прамове Старшыня Рады БНР Др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Ягоныя словы змушалі прысутных задумацца, ці мы на сваіх адрэзках нацыянальна-грамадзкае працы-змаганьня запраўды вытрымоўваем, ці ў няпрыкметку высьлізгваемся з радоў і пачынаем стаяць збоку, ці мы запраўды „. . . Твой працягваем шлях!"?

Рэцытацыя верша Натальлі Арсеньневай „Ня досьць крычэць аб Беларусі" ў выкананьні Раісы Жук-Грышкевіч быццам давала адказ на нашыя пытаньні — „Каб справы не скалечыць, каб не праспаць ізноў сьвітаньня, высілкаў трэ нечалавечых і процьму цёплага каханьня! Тады, тады мы зьвяз сталёвы з блакітнай Бацькаўшчыны зьвяжам і раз нарэшце моцным словам не нам, мы штось сьвету скажам!"

Нацыянальны гімн закончыў урачыстасьці.

**Р. Ж-Г.**

## НА ЯГОНЫМ ГЭРБЕ КРЫЖ ЯРЫЛЫ

Свой верш, прысьвечаны гэтаму гораду, Уладзімер Дубоўка распачынае зваротам:

Мазыр, Мазыр! Зьбягаеш ты
з прыгожых берагоў крутых
да самай Прыпяці — ракі
на прыбярэжныя пяскі.

Запраўды ўзвышша, што працягнулася на 50 кілямэтраў і адзначана на картах, як Мазырская града, уздымаецца сям-там над вакольнай нізінай Плесься на 100 мэтраў.

Страдаўны горад разьлёгся на правым рачным беразе, парэзаным глыбокімі ярамі, па якіх спушчаюцца да многаводнае Прыпяці ягоныя ўтульныя вуліцы, дзе ня відаць пасобных хат за зелянінай садоў. Тутэйшы тыповы краявід знайшоў прывабны адбітак у малюнку вядомага сучаснага беларускага мастака Ф. Дарашэвіча „Мазырскія далі". А падобна да тае зь іх далячыні, што, займаючы сабой дух, адкрываецца зроку ў Мазыры ад Замчышча на Запрыпяцьце, гэтак-жа далёка ўваходзіць у глыбіню вякоў ягонае мінулае, аб якім той-жа Дубоўка ў тым-жа сваім вершы „Гэрб Мазыра" заўважыў:

Зьнішчалі войны ўсё мячом,
выпламянялі ўсё агнём.

Упяршыню Мазыр згадваецца на старонках Іпацьеўскага летапісу пад 1155-м годам, калі Кіеўскі князь Юры Даўгарукі, вядомы, між іншым, як заснавальнік Масквы, зьвярнуў яго Чарнігаўскаму князю Сьвятаславу Вольгавічу. Дарэчы, гэта сыну Юрага Даўгарукага Уладзімерскаму князю Андрэю Багалюбскаму прызначыў слаўны патрыёт сваёй зямлі сьвяты Кірыла Тураўскі гнеўную выкрывальную „Прытчу аб сьляпым і кульгавым". З тае прычыны, што Мазыр знаходзіцца на паўднёва-ўсходняй мяжы Беларусі, яго ў 1227 і 1241 гадох зьнішчалі мангола-татары, а ў 1497-м, 1521-м і 1534-м спалілі Крымскія Татары, але-ж і тыя Татары на чале з ханам Балаклеям, паводля „Хронікі Быхаўца", мелі тут паражэньне ад князя Ськірмунта.

Аднак асаблівага ліха горад зазнаў за часоў казацкіх, ці дакладней — украінскіх войнаў. Характэрна, што калі ў 1648-м годзе дзяк Кунакоў у сваім данясеньні цару Аляксею Міхайлавічу, прыгадваючы паміж іншых гарадоў і Мазыр, пісаў:

„а Палякаў і Жыдоў павыбівалі ў іх казакі бяз літасьці", дык праз год таму-ж самаму цару ды зноў разам з тымі-ж гарадамі пра той-жа Мазыр паведамлялася:

„пакольі казакі ў іх Беларусцаў ня чапалі, дык за гэтае Палякі цяпер усіх Беларусцаў там павыбівалі".

Хіба не паказальная гэтая тутэйшая трагэдыя для ўсяе Беларусі? Нас не аднойчы з розных бакоў вызвалялі, каб пры тэй нагодзе паспрабаваць фізычна або духова зьнішчыць. Аднак горад, як і ўся краіна, усё-ж ня зьнікнуў, хоць паміж ягоных новых насельнікаў, паводля тагачасных дакумантаў, сталася найбольш пашыраным прозьвішча „прахожы". А ўсё-ж наўсуперак усяму яшчэ на геаграфічнай карце Эўропы, выдадзенай у 1540 годзе ў Базэлі, мы знаходзім Мазыр.

І ўскосным адбіткам мазырскага ліхалецьця зьяўляецца навет назоў аднаго з шматлікіх тутэйшых узгоркаў — прыгожае Шайтан гары. Паводля народнага, толькі на першы пагляд наіўнага, паданьня, пададзенага Адама Кіркорам у 3-м томе „Живописной России", ня толькі Татары й Расейцы, Украінцы й Палякі, але й сам чорт неяк вельмі разлаваўся на Мазыр і наважыў зьнішчыць яго дарэшты. Дзеля гэтага ён схапіў вялікую гару й панёс, каб сьвінуць уночы на чамусьці зьненавіджаны ім горад. Аднак калі Рым выратавалі гусакі, дык Мазыр ранічныя пеўні. Пачуўшы іх, чорт, як заўсёды, спалохаўся і ўпусьціў гару, што, зваліўшыся таму на зямлю паза горадам, набыла назву — Шайтан. Аднак дазвольце цяпер ад фальклёру перайсьці зноў да гісторыі, каб пераканацца, што ня толькі пеўні, але й гарматы абаранялі стары Мазыр.

Калісьці ў Мазыры на цяперашняй Гары Камунараў, вядомае здаўна пад назовам Спаскае, стаяў магутны замак, заснаваны яшчэ ў канцы 14-га стагодзьдзя. Уздымаючыся над Прыпяцьцю на 42 мэтры, ён меў удоўжкі больш за 120, а ўшыркі бяз малога 60 мэтраў. Яго не аднойчы разбуралі войны, а па іх яго зноў аднаўлялі і пэўне-ж ён зьяўляўся для свайго часу даволі моцным, бо, паводля інвентару 16-га стагодзьдзя, у ім было 5 „дел спижных" або вялікіх гарматаў, 5 „сарпаткаў" ці малых гармат і 53 гакаўніцы з выстарчальным прызапасам ядраў, куляў і пораху да іх.

За вылучэньнем зямлянога валу з боку поля, не засталося цяпер і сьледу ад гэтага замку, што меў 4 вежы, з найвышэйшае зь якіх у студзені 1649-га году гэтман Вялікага Княства Літоўскага Януш Радзівіл загадаў сьвінуць на абледзянелыя камяні сьмяротна параненага начальніка казацкага загону Міхненку.

Што датычыць да архітэктурных помнікаў старога Мазыра, дык Уладзімеру Караткевічу ў ягоным вядомым эсэі „Званы ў прадоньнях вазёр", пасьля параўнаньня сучаснага гораду па маляўнічасьці зь Кіевам, кінулася ў вочы: „Цукравая бель старых цэркваў і манастыроў". Магчыма ён меў на ўвазе тутэйшыя Міхайлаўскі сабор, Спаскую й Мікалаеўскую цэрквы, а таксама цікавы сваім стылем касьцёл, у якім асабліва ўшаноўваўся Беларусамі каталікамі цудадзейны абраз Хрыста Збавіцеля. Зьдзіўляе, што пра іх ня прыгадваюць у сваіх працах па архітэктуры Беларусі ні С. Кацап, ні У. Чантурыя, хоць яны існавалі ўжо ў 16-м стагодзьдзі, што, на жаль, ня сталася ў 30-х гадох на перашкодзе для злачыннага ўжытку іх саветчыкамі пад розныя склады. Між тым яны заслугоўваюць дакладнага дасьледваньня й дзяржаўнае аховы.

Бадай не дасьледваныя таксама замчышча й гарадзішча Мазыра, якія беспасярэдня датычаць да ягонае гісторыі. Прынамся ў 1951-м годзе Ю. Кухарэнка абмяжаваўся тут толькі павярхоўным аглядам паверхні замчышча на колішняй Спаскай гары, а цяпер Гары Камунараў, якую затое ён, між іншым, зусім слушна называе ў сваёй працы „Сярэднявяковыя помнікі Палесься" (Масква. 1961 г.) — так званай — нагэтулькі не адпавядае ейны сучасны назоў ёй, як страдаўнаму гістарычнаму, ахутанаму славай помніку. Больш пашанцавала гарадзішчу на ўскраіне гораду Кімбараўцы, дзе, не капаючы шурфаў, архэалёг усё-ж агледзіў розныя ямы, спакінутыя разбуральнікамі помніку, і пабачыў на іхніх сьценках попельна-вугальныя праслойкі, якія, бяз сумлеву, спакінула полымя колішніх войнаў.

Пасьля гэткае бязуважнасьці да мінулага амаль ня зьдзіўляе, калі хай сабе й кандыдат геаграфічных навук Вадзім Жучкевіч у сваёй кніжцы „Гарады і сёлы Беларускай ССР" (Менск, 1959 г.) сьцьвярджае, што Мазыр некалі быццам вельмі нагадываў „любы гарадок Цэнтральнай Расеі". Дарэчы, той-жа В. Жучкевіч у сваёй іншай кніжцы „Тапаніміка Беларусі" (Менск, 1968 году) спрабуе давесьці, што да назову Мазыра быццам спрычыніліся... мазуры, у той час, як гэтае польскае племя ў 12-13 стагодзьдзях было вядомае ў нас пад імям мазаўшанаў. Між тым для Мазыра яшчэ з часоў дрыгвіцкіх і дагэтуль уласьцівая беларушчына, і не дарма на ягоным гэрбе красаваўся той слаўны крыж Ярылы, што аздабляе шчыт „Пагоні". Кагадзе мной прыгаданы Уладзімер Караткевіч ды ў тым-жа сваім „„Званы ў прадоньнях вазёр" усхвалявана піша пра Мазыр:

„Шмат было крыві. Але ўсё-ж ясная ўсьмешка засталася на прыгожых вуснах гораду. І сьветла дрыжаць на ягоных горах дрэвы.

Я люблю гэты горад здаўна. Люблю бескарысьліва і назаўсёды, і заўжды рад вярнуцца ў яго. Гэта тут, у навакольлях ягоных, я сустрэўся з цар-дубам. Я яшчэ раз зразумеў тады, што такое мая зямля і якое маё месца на ёй".

Гэта-ж тут у 1598-м годзе займаў пасаду падкаморага або галоўнага межавога судзьдзі пазьнейшы кашталян ці камандант Смаленскі Іван Мялешка, які нібы ў сваёй прамове ў 1589-м годзе на Сойме прыгадаў каралю Жыгімонту Трэйцяму Вазе пра тую праўду, якую ўладаром, як соляй у вочы кідалі, а таму „муры магутныя муравалі ды вайну слаўную мацней і ляпей чым цяпер трымалі". І хай сабе, як прыпушчаюць некаторыя навукоўцы, гэтая прамова ня належыць гістарычнаму Івану Мялешку, бо, перадусім, ня супадае з датамі ягонага жыцьця, затое, паводля грунтоўнага дасьледваньня вядомага навукоўца Д. Даўгялы, ейным аўтарам, як пашыранага палітычнага памфлету, зьяўляўся мазырскі шляхціц Цыпрыян Камуняка.

Гэта таксама-ж адсюль паходзіць і гнеўны „Ліст да Абуховіча", дзе, як сьцьвярджаюць, той-жа Цыпрыян Камуняка, піша здрадніку:

„Нешта, Пане, гэткае з вашым родам дзеяцца: Дзед Тваёй Міласьці, калі Генэралам быў у Мазыры, то слыў, што за малыя грошы няпраўду прадаваў. Пан айцец Вашмосьці судзьдзёю будучы Мазырскім за маёй памяці, у каго больш узяў, таму лепш асудзіў; калі нябожчык з таго сьвету ўступіў, мазыране вельмі рады былі".

І адсюль хіба не характэрна для Мазыра, як і для ўсяго беларускага народу, ягоная наўсуперак усім злыбядам жыцьцёвая трываласьць і дажывотная пагарда да ўсіх прыгнятальнікаў, якія імкнуліся яго зьнішчыць.

Таму годным пашаны мы лічам тое абурэньне, зь якім Віктар Говар у сваім артыкуле „Гарады аб'ядноўваюць" („Маладосьць". №5 за 1969 год), давёў да агульнага ведама вартыя пагарды словы старшыні Мазырскага гарвыканкому Генадзя Коханава:

„Зьнясём, — радасна гаварыў ён. — Усё зьнясём, усю старызну! І ён касавурыцца на старую царкоўку, што стаіць на ўзгорку ля старажытнага гарадзкога рынку".

І хіба ня сьветчыць самы факт зьяўленьня гэткага артыкулу, як і шмат чым да яго падобных за пазьнейшы час, аб тым супраціве, які сустракае цяпер усякая спроба зьнішчэньня каранёў нацыі?

**Юрка Віцьбіч**

# КАМПАЗЫТАР АЛЕСЬ КАРПОВІЧ



**Ад Рэдакцыі:** Сёлета ўлетку сп-ня Эльза Зубковіч, быўшы ў Нямеччыне, наведала кампазытара Алеся Карповіча. У сям'і чалавека, што гэтак-жа як і сама падарожніца (гл. „Беларус" № 167, сакавік 1971) творыць і захапляецца музыкай, два кампазытары прыемна й цікава правілі час — у гутарках пра музыку й пра свае новыя творы, успамінамі пра свой родны Менск, падзяліліся творчым дазнаньнем і новымі задумамі. З нагоды гэтае сустрэчы сп-ня Зубковіч папрасіла свайго музычнага субрата й прыяцеля расказаць пра сябе чытачом нашае газэты. Рэдакцыя „Беларуса" зь вялікай ахвотай зьмяшчае ніжэй словы пра сябе кампазытара Алеся Карповіча, творчасьць якога высака ацанілі кампазытары Равенскі й Куліковіч ды якая карыстаецца вялікім посьпехам у беларускім грамадзтве.

**

Музыка прыцягвала мяне ад самага раньняга маленства. Памятаю, як мы цэлай сям'ёю прыяжджалі да дзеда, настаўніка ў мястэчку Азёркі каля Горадні, і там я захапляўся народнымі песьнямі, што пяялі сяляне. Пасьля майго бацьку (ён быў юрыстым) перавялі на службу на Каўказ, дзе перада мною адчынілася зусім новая музычная стыхія. Падлеткам, вучачыся ў музычным тэхнікуме ў горадзе Уладыкаўказе, я зблізіўся зь вядомым зьбіральнікам каўказкага музычнага фальклёру Калесьнікавам, і ён упяршыню пазнаёміў мяне з тайніцамі апрацоўваньня народных мэлёдыяў. Там я зрабіў першыя апрацаваньні народных песьняў — каўказкіх і беларускіх — ды пераканаўся, як шмат трэба ведаць, каб правільна апрацаваць і гарманізаваць народную мэлёдыю. Музычна-тэарэтычная навука стала тэй мэтай, якую я паставіў дасягнуць, і як толькі зьявілася магчымасьць, я паступіў на гістарычна-тэарытычны факультэт Маскоўскае кансэрваторыі. У сваіх студэнцкіх працах я часта выкарыстоўваў беларускія мэлёдыі, якія заўсёды прыцягвалі ўвагу маіх пэдагогаў і сяброў сваёй непасрэднасьцяй і сьвежасьцяй. Па сканчэньні кансэрваторыі я дамогся накіраваньня на працу ў Менскую кансэрваторыю. Там блізка пазнаёміўся з цудоўным чалавекам і таленавітым дасьледнікам беларускага музычнага фальклёру Равенскім. Гэтае знаёмства дало мне вельмі шмат: я даведаўся шмат беларускіх песьняў, шмат чаго зразумеў у іхнай інтанацыйнай пабудове. На гэтую тэму я задумаў быў тэарытычную працу, ужыцьцёвіць якую перашкодзіла вайна.

Працуючы ваенным часам у беларускім тэатры, я працягваў свае пошукі ў дзялянцы беларускае музыкі, вынікам чаго сталася сэрыя нарысаў зь гісторыі беларускае музыкі ў „Беларускай Газэце". У гэным-жа часе я напісаў для фартэпіяну сюіту „Нёман" і „Беларускую Рапсодыю", якія разам з апрацаваньнямі беларускіх песьняў загінулі пры пажары ў маім доме.

Трапіўшы на вайне ў украінскі лягер Гайхэнаў, я там шмат працаваў у творчай і пэдагагічнай дзялянках, напісаў шэраг рамансаў на словы ўкраінскіх паэтаў, цыкль прэлюдыяў для фартэпіяну ды працягваў працу над беларускімі апрацаваньнямі.

Асабліва шмат было зроблена ў пэрыядзе цесных сувязяў зь беларускім студэнцкім хорам у Лювэне, куды я часта прыяжджаў і сустракаўся із сваім старым знаёмым, кампазытарам Равенскім. Мы зь ім шмат займаліся музыкай і абменьваліся творчым дазнаньнем. Гэта так важна — ведаць, што твая творчасьць камусьці патрэбная й цікавая!

Па сьмерці Равенскага й спыненьні дзейнасьці беларускага хору ў Лювэне я йшчэ шмат пісаў для іншых хораў і выканальнікаў, але паступова ў сувязі із стратай „рынку збыту" для сваіх твораў мая музычная дзейнасьць пачала абмяжоўвацца да пэдагагічнае працы ў нямецкай музычнай школе. Цяпер, калі я пішу, дык галоўным чынам „для сябе", ці дзеля прыработку раблю апрацаваньні расейскіх песьняў для нямецкіх выдавецтваў.

На маю творчасьць зрабілі ўплыў Скрабін і Дэбюсы. Я люблю складаныя гарманічныя комплексы, танальныя наслаеньні й паліфонію.

Із сваіх твораў прыгадаю тут:

**Фартэпіяна:** тры санаты, Баляда на беларускую тэму, Беларуская сюіта, Полька-Янка, Данца, 12 прэлюдыяў, Беларускія рапсодыі й шмат дробных рэчаў.

**Хор:** Кантата „Апокрыф" на тэкст Багдановіча, апрацаваньні беларускіх песьняў для хору й собскія харавыя кампазыцыі.

**Мэлядэклямацыя:** „Курган" на словы Янкі Купалы з арыяй князя.

**Вакал:** Рамансы на словы Сяднёва, Козыра, Буйлы, Геніюш, Случчаніна, Коласа, Арсеньневай, Багушэвіча, Пушчы, Купалы, Кавыля, Змагара, Клішэвіча, Ясеня, Золака, Крушыны, Танка, Дудзіцкага, Магдановіча, Макаля, Барадуліна й расейскіх паэтаў: Блока, Гумілёва, Сабуравай ды іншых. Шмат апрацаваў беларускіх песьняў.

**Для скрыпкі:** Вячорная Песьня, Успаміны пра Бацькаўшчыну — абедзьве на беларускія тэмы.

*СПРАВЫ МОЛАДЗІ*

# САЮЗ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ Ў КАНАДЗЕ У МІНУЛЫМ ГОДЗЕ

7-га лістапада 1971 г. у залі царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Тароньце адбыўся другі гадавы сход Саюзу Беларускай Моладзі ў Канадзе.

Сход адчыніў і вёў старшыня ўступаючай управы Паўлюк Пашкевіч, сакратарыла Валя Велясьніцкая. Справаздачу зь дзейнасьці СБМК зрабіла культурны рэфэрэнт Эва Пашкевіч.

Побач паседжаньняў управы, у часе году адбылося 5 агульных збораў, на якіх абгаварваліся бягучыя справы, асабліва ўвесну справа „Каравану 1971".

СБМК мае свой танцавальны гурток „Лявоніха", у якім у мінулым годзе ўдзельнічала 7 дзяўчат і 5 хлопцаў. Наш гурток выступаў на Сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў Тароньце з танцамі „Лявоніха" й „Мікіта", а тыднем пазьней ізноў на Сьвяце 25-га Сакавіка ў Дэтройце.

Мы мелі таксама некалькі сяброўскіх вечароў, пераважна ў прыватных дамох, а ў часе Калядных канікулаў у вадзін вечар мы нанялі арэну гуляць у гакэй. Так як немагчыма было дастаць арэну раней 12-ай гадзіны ночы, сабраўшыся раней, мы супольна правялі весела вечар. Адныя пайшлі спускацца на санках з горкі на суседзкім гольфавым пляцы, а іншыя засталіся глядзець гакей на тэлевізары і слухаць музыку. Ніхто толькі не танцаваў, мусіць пакідалі сілы на гакей.

Як сябра тарантанскай Мясцовай Рады Народнага Мастацтва танцавальны гурток „Лявоніха" быў запрошаны й прыняў удзел у Канфэрэнцыі Народных Танцаў (Dance 71) і выстаўцы народных вырабаў, пераважна вопраткі. Канфэрэнцыя трывала тры дні ад 23 да 25 студзеня, а выстаўка для вучняў тарантанскіх школаў, а ў часе Канфэрэнцыі для дэлегатаў і наведвальнікаў канцэртаў, праз цэлы тыдзень.

Кажная танцавальная група магла дэлегаваць на Канфэрэнцыю толькі двух дэлегатаў, але магло быць некалькі абсэрватараў. Ад Беларусаў дэлегаткамі былі Рагнеда Рагуля й Эва Пашкевіч, а абсэрватарамі Роланд Целеш і, заміж Алесі Сладкоўскай, якая якраз мусіла граць у валейбол для свайго Унівэрсытэту ў Лёндыне (Онтарыё) у змаганьні за чэмпіянат, Паўлюк Пашкевіч.

Удзельнікі Канфэрэнцыі праслухалі рад цікавых фаховых дакладаў з галіны народнай харэаграфіі й наагул тэатральнага мастацтва, як напр. даклад ведамага канадыйскага рэжысэра ў новым Тарантонскім Тэатры Сант Лорэнс Сэнтэр сп. Ліона Мэйджэра, і таксама практычных парадаў для працы ў гуртках.

Вечарамі-ж усе групы паказвалі свае дасягненьні ў трох канцэртах для публікі. На адным з гэтых канцэртаў мы высытупалі з танцам „Лявоніха".

У вапошнім тыдні чырвеня 1971 г. СБМК зарганізаваў беларускі павільён для „Каравану 1971", які быў ладжаны таксама Тарантанскай Мысцовай Радай Народнага Мастацтва, ды аб якім ужо раней была ў газэце „Беларус" дакладная справаздача.

Пару тыдняў пазьней наш гурток танцаваў у часе гарадзкога канцэрту на пляцы перад Тарантанскай ратушай. Тут і танцорам і музыкантам горад плаціў за выступ. Адна прафэсійная аркестра была вызначана граць для ўсіх групаў, дзеля таго ўжо месяц наперад, як і заждалі ад нас, далі мы ноты для „Мікіты" й „Лявоніхі", каб музыканты маглі іх навучыцца. Першы раз, мусіць, у жыцьці Беларусы скакалі „Лявоніху", бо „Мікіту" яны так-сяк гралі, на толькі пад „цыганскую аркестру", як яе называлі, але і амаль пад цыганскую музыку. Адно шчасьце, тэмпы супадалі, і танцоры, ні разу не памыліўшы фігураў, вытрывалі на сцэне да канца. Пасьля мы абураліся на „цыганоў" і разам рагаталі да сьлёз, дый пацяшаліся думкай, што за ўсё гэта прынамся ў касу СБМК перапала 85 даляраў.

У днях 4 і 5 ліпеня 1971 г. група сяброў СБМК езьдзіла на зьезд беларускай моладзі ў Кліўленд. Для навязаньня цясьнейшага супрацоўніцтва паміж беларускай моладзьдзю Канады і ЗША было пастаноўлена, каб у Галоўную Управу Арганізацыі Беларускай Моладзі ў Амэрыцы увахадзіў і адзін прадстаўнік ад Канады. Таму адным з 5-ёх віцэстаршыняў АБАМ была выбраная Эва Пашкевіч.

Тарантанскія хлопцы таксама бралі ўдзел у спартовых сусьцігах. Пару мінут перад гульнёй яны з двума яшчэ з Дэтройту зарганізавалі валейбольную дружыну. У першых гульнях з Кліўлендам было відаць, што яны ніколі разам ня гралі, яны ганебна праігрывалі, але чым далей, да таго дзякуючы выдатнай каманьдзе Міхася Жэлягіна з Дэтройту, мелі ўсё лепшыя вынікі. Перадапошнюю гульню навет выйгралі, а апошнюю прайгралі толькі адным пунктам.

У другой частцы Тарантанскага Сходу прысутныя выбралі новую Управу СБМК: Старшыня — Эва Пашкевіч, Віцэ-старшыня — Язэп Пітушка, сакратар — Марыя Пракоп'ева, Скарбнік — Роланд Целеш, ды Кантрольную Раду: Старшыня — Паўлюк Пашкевіч, Сябры — Валодзя Кухарчык і Юрка Акула.

У бягучых справах Сход абмяркоўваў пытаньне ўдзелу ў „Караване 72" ды амаль аднагалосна пастанавіў ізноў арганізаваць беларускі павільён.

Абгаварвалася таксама прапанова Ньюёркаўскай моладзі зладзіць у часе Калядных канікулаў зімовую сустрэчу Канадыйскай і Амэрыканскай Беларускай Моладзі ў нартавым рэсорце. Шмат было ахвотнікаў. Спадзяёмся, што нам, як і ўсёй іншай моладзі ўдасца наладзіць гэтае хуткае спатканьне.

**Эва Пашкевіч**



# У БЕЛАРУСАЎ КЛІЎЛЕНДУ

Ужо прайшло шмат часу, як ні згадвалася ў газэце пра ўсе падзеі сярод Беларусаў Кліўленду. Затым хоць коратка ўспомнім пра ўсё, што адбылося пасьля пададзенай раней хронікі зь беларускага кліўлендзкага жыцьця.

● 22 ліпеня летась адбыўся мітынг з нагоды „Тыдня Паняволеных Народаў", што быў зарганізаваны міжнацыянальнай арганізацыяй „Рух Нацыянальнасьцяў", куды належаць і Беларусы, а іхным сталым прадстаўніком зьяўляецца сп. Я. Раковіч. Старшынём гэтае арганізацыі ведамы рэспубліканскі дзеяч Ралф Пэрк, цяпер бурмістр Кліўленду. На мітынгу прамаўлялі Сэнатар Р. Тафт і іншыя. Усе прысутныя нацыянальнасьці былі афіцыйна прадстаўлены, у тым ліку й Беларусы, што зьявіліся на мітынг у значнай колькасьці.

● 2 кастрычніка беларуская кліўлендзкая моладзь ладзіла вечарыну ў прыгожай залі й зь вельмі добрай аркестрай. Асабліва было прыемна глядзець, як танцавальная група моладзі пад кіраўніцтвам Галіны Кананчук у народнай вопратцы выступала зь беларускімі народнымі танцамі.

● 3 кастрычніка танцавальны гурток Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Кліўлендзе пад кіраўніцтвам Г. Кананчук выступаў на міжнародным фэстывалі, які адбыўся ў найбольшай ў Кліўлендзе залі „Музык Гол". Беларуская група была адна зь лепшых і добра зарэпрэзэнтавала беларускія народныя танцы. Пра фэстываль і ягоных удзельнікаў пісалася колькі разоў у мясцовых газэтах.

● 17 кастрычніка старшыня Аддзелу БАЗА зь сябрамі прыймалі ўдзел на казацкім сьвяце „Пакрова". Ад Беларусаў прамаўляў Высокапраасьвяшчэньнейшы Архіяпіскап Андрэй. Пасьля ўрачыстага банкету адбылася вечарына.

● 24 кастрычніка дэлегацыя Беларусаў у складзе Я. Раковіча, Я. Лукашэвіч й Ул. Дунца прыймала ўдзел у балю з нагоды выбарнай кампаніі й кандыдаваньня на становішча бурмістра Кліўленду Ралфа Пэрка. Удалося пазнаёміцца з многімі палітычнымі й грамадзкімі амэрыканскімі дзеячамі й навязаць цясьнейшыя кантакты з прадстаўнікамі розных нацыянальнасьцяў.

● 30 кастрычніка кіраўніцтва Беларускага Грамадзкага Цэнтру „Полацак" ладзіла вечарыну ў сваёй, хаця невялікай, закончанай залі. Быў багаты буфэт і прыгожа грала аркестра з маладым беларускім музыкам Юркам. Пажадана, каб карпарацыя „Полацак" рабіла гэткія вечарыны часьцей.

● 1 літапада адбыўся перавыбарны сход міжнароднай арганізацыі народнага мастацтва. Гэтая арганізацыя штогоду ладзіць фэстывалі народнага мастацтва й знаёміць амэрыканскае грамадзтва з народным мастацтвам паасобных народаў. Ад Беларусаў прысутнічаў на сходзе Ул. Дунец, які быў перавыбраны ў кіраўніцтва гэтае арганізацыі. Пасьля сходу адбыўся банкет.

● 8 лістапада сп. Я. Раковіч і сп-чня К. Яраховіч прысутнічалі на ўрачыстай інаўгурацыі новавыбранага бурмістра Кліўленду Ралфа Пэрка.

● 17 лістапада новавыбраны бурмістр Кліўленду Ралф Пэрк зарганізаваў прыняцьце для ўсіх нацыянальнасьцяў гораду, што памагалі ў выбарнай кампаніі, галасавалі й выбралі яго. Ад Беларусаў прысутнічалі на прыняцьці Я. Раковіч і Ул. Дунец. Тут яны мелі нагоду пазнаёміцца зь сябрамі новае адміністрацыі гораду, што таксама ў большасьці сваёй паходзяць з этнічных групаў. Сам бурмістр Ралф Пэрк чэскага паходжаньня, зьяўляецца вялікім прыяцелем паняволеных народаў, старшынём арганізацыі „Рух Нацыянальнасьцяў", ды старшынём Рэспубліканскай асацыяцыі этнічных групаў у Огаё. Ён жа й вялікі прыяцель Беларусаў, прысутнічае на нашых сустрэчах і нацыянальных сьвяткаваньнях.

● 19 лістапада старшыня Беларуска-Амэрыканскага Клюбу й рэфэрэнт Вонкавых Дачыненьняў БАЗА Я. Раковіч і старшыня Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі Г. Кананчук дый сяброўка гэтае Арганізацыі М. Каваленка езьдзілі ў Вашынгтон на Рэспубліканскую Канфэрэнцыю Нацыянальнасьцяў.

● 5 сьнежня кліўлендзкі Аддзел БАЗА адзначыў „Дзень Герояў". Пасьля звычайнае Сьв. Літургіі Уладыка Андрэй адслужыў Паніхіду за ўсіх герояў, што загінулі ў змаганьні за вызваленьне беларускага народу. Хор пад кіраўніцтвам сп. К. Кіслага пяяў малітоўна й прыгожа. Былі вынесены на сярэдзіну царквы беларускі й амэрыканскі сьцягі. Уладыка Андрэй сказаў глыбака нацыянальную пропаведзь. А 5-ай гадзіне папаўдні ў паркоўнай залі адбыўся ўрачысты ўгодкавы сход, які адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА й папрасіў прысутных хвілінай цішыні ўшанаваць памяць герояў, пасьля чаго быў прапяяны жалобны марш. Цікавы рэфэрат пра ўгодкавую падзею прачытаў Уладыка Андрэй, пасьля чаго былі дэклямаваныя патрыятычныя вершы. Сход закончыўся беларускім нацыянальным гімнам.

**Ул. Д.**

# 680-ЫЯ ЎГОДКІ НАВАГРАДЗКАЙ МІТРАПОЛІІ І "ДЗЕНЬ УДЗЯЧАНСЬЦІ" У КЛІУЛЕНЬДЗЕ

У нядзелю 21-га лістапада парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе годна адзначыла дзьве ўрачыстасьці: 680-я ўгодкі заснаваньня Незалежнае Наваградзкае Мітраполіі й традыцыйнае Амэрыканскае Сьвята „Дзень Удзячнасьці".

З гэтае нагоды а гадзіне 10 раніцы ў Саборы БАПЦарквы ў Кліўлендзе была адпраўленая Сьв. Літургія, адбылося пасьвячэньне камплету да Ліціі й адпраўлены Малебен „Удзячнасьці" Госпаду Богу. На Багаслужбе прысутнічалі не толькі Беларусы, але й належачыя да парахвіі Казакі і прадстаўнікі ад іншых нацыянальнасьцяў.

У часе супольнага абеду Уладыка Андрэй прачытаў добра апрацаваны даклад аб „Заснаваньні Наваградзкай Мітраполіі". За аснову дакладу былі ўзяты летапісныя запісы, навуковыя працы гісторыкаў і выняткі з Патрыяршае хронікі. За ўступ узятая была Полацкая Епархія, як калыска беларускае культуры, з асяродзьдзя якое выйшла пазьней найбольш Мітрапалітаў, што кіравалі ня толькі Наваградзкаю Мітраполіяй, але й Кіеўскай, Галіцкай і „усяе Русі". Закончаны быў даклад словамі, што зусім неабаснавана некаторыя трымаюцца тае думкі, быццам Мітраполія Наваградзкая была залежнаю ад Кіеўскае Мітраполіі, чаго ў запраўднасьці ніколі ня было. Згодна працы чужых навет гісторыкаў ведама, што за часу Вялікага Літоўскага Княства Мітрапаліты Наваградзкія кіравалі Кіеўскай Мітраполіяй. А таму гісторыя БАПЦарквы яшчэ чакае сваіх гісторыкаў.

Ад імя Парахвіяльнае Рады ў Дэтройце прысутных горача вітаў Д-р Я. Сажыч.

Ад Казакаў прамаўляў атаман Мажаеў, які, вітаючы з заснаваньнем Наваградзкае Мітраполіі, падзіўляў чын і рэлігійнасьць нашых продкаў ды іхняе змаганьне за незалежнае рэлігійнае жыцьцё. З кароткімі прывітаньнямі выступалі і іншыя парахвіяне. Але на асаблівую ўвагу заслугоўвае прамова Спні Ніны Амброзіе, якая сказала: „Я Расейка, але хаджу ў вашую царкву, бо яна вельмі ўтульная й мне падабаецца служба вашага Архіяпіскапа, голас дыякана й мэлёдыйны сьпеў хору пад кіравецтвам сп-ра Кіслага".

Уладыка Андрэй на заканчэньне падзякаваў усім прысутным, таксама й гаспадыням за абед, пажадаў, каб з большаю павагаю й любоўю адносіліся да роднае БАПЦарквы й стараліся выканаць хоць мінімальную частку тае дзейнасьці, якую праводзілі нашыя продкі, арганізуючы Незалежную Наваградзкую Мітраполію.

**Назіральнік**

